сацыялізму. Толькі праз нацыянальнасьць людзі дайшлі да сучаснае вышы культурнаго разьвіцьця. Нацыянальнасьць ствapae усё: навуку, штукарства і літэратуру.

Толькі стаўшы на грунт нацыянальнай культуры З. Эўропа вышла із цемры барбарызму на шлях сьветлай паступовасьці. Толькі на грунці роднай культуры мог зьявіцца Толстой, Шэкспір, Сэрвантэс ці Геттэ; толькі англіцкая культура магла спарадзіць Дарвіна, а нямецкая дала нам Канта.

Так вучыць гісторыя.

Хто мае вушы слухаць, ніхай слухае.

**Я. Л-к.**



## З ДАРОГІ.

Вот і станцыя, дзе мне трэба схадзіць с цягніка. Скора прывітаюся з роднаю старонкаю, буду ў родным кутку.

Саскаківаю з вагону і, ні заходзючы на вакзал, борздзінька бягу на вялікую дарогу, што вядзе да дому.

Як лёгінька іці! Самі бягуць ногі. Станцыя адстае і робіцца ўсё даляй і даляй. Шум і гоман чуецца слабей і слабей. Вот ужо і нічога ні чуваць...

Навокала пяшчанае поле, заросшае ядлоўцам. У перадзі—густы, вялікі, як сцяна, лес; направа—шырокі луг, а пасярэдзіні яго, як срэбная стужка, зьяе Нёман; налева—кусты ядлоўца цягнуцца далёка і дзесь ніўзаметкі сходзюцца с хвойнікам...

— Як маешся, родная краіна? Што цікавае мне прагамоніш?

— Р-р-у-у-у!—пачулася недзя далёка, як кароткі, дробны гром. Наляцела хваля ветру, і нудна зашастаў рыжы, зсохшы ядловяц. Пачуўся нямы адказ:

— Цяжка жыці мне на сьвеці! Крывёю зліты мае грудзі, парэзаны бомбамі і кулямі, скопаны рыдлёўкай на равы, уплецяны калючым дротам; многа людзей забралі ад мяне, многа зьнішчылі майго багацьця.

— Пацярпі, край родны, ажывеш! Зажывуць твае грудзі, вернуцца людзі, будзе і багацьце.

Чуецца працяжны гарматны стрэл.

Шырокая дарога увыходзіць у лес. Ня чуваць нешта знаёмаго сьпеву ляснога птаства. Ня шуміць знаёмым шумам вецяр па лесі. I сам лес адмяніўся. Многа пнёў, зломкаў, сухастою відаць у ём. Парадзеў ён, гальлём запаў; пааблышваны, асмаляны хвоі; дол пабіты конскімі капытамі. Шкода пышнага бору!..

Няўжо усюды так? Зварочваю набок і іду вузкай, зялёнай дарожкай. О, тут весяла! Птушкі сьпеваюць, аж лес разлягаецца. Зялёныя бярозкі і зялёна-сівыя асіны весяла шэпчуцца паміж сабою. Пахнуць чырвона-рабенькія галоўкі дзяцяліны і пералётніку. Пчолкі гудуць і зьбіраюць з іх мёд. Рад я, што гэткая дарога будзе аж да самага дому.

Вот і поле, а за узгоркам—наша сяло. Нёман гэтак сама агібае яго, той самы луг за Нёмнам і лес за сялом, а самога села—пазнаць трудна. Здаецца і хаты ні гэтак стаяць. Німа ні парканаў, ні частаколу. Усё паломана, пакрышана. На хатах падзёрты стрэхі, у іншых павыбіваны шыбы, паломаны дзьверы: гэта хаты уцякачоў...

Сустрэчаю старога Янку.

— Дзень добры, дзядзька!

— Дзень добры! А я, брат, ні пазнаў. Гляджу—які гэта чыноўнік ідзе.

— Ну, як вы тут жывеце?

— От, сяк-так кідаемся. Хто уцёк, хто дома застаўся, а хто і назад вярнуцца усьпеў. Ні соладка, брат, цяпер жывецца. Рашыліся усяго, папчышчвалі, параскідалі. Бачыш, якая у нас ціпер бязталковіца. Ды яшчэ дрыжыш заўсюды, каб і адгэтуль уцякаць ні давялося. Яшчэ ціпер асьвяціся, што салдат німа. А то — Вільна настаяшчая. Крык, зык, цясьнота, цягаюцца у ночы па вуліцах,—крычаць, сьпеваюць, спаць ні даюць. І вясковая моладзь распусьцілася. Нікога ня слухаюць,—што ты парадзіш? Надаела гэта вайна. Калі яна скончыцца?!

Доўга скардзіўся стары Янка на ціперашняе жыцьцё.

На вуліцы ідзе купка дзяўчат і хлопцаў. Гэ, хіба-ж гэта ні з нашага сяла! Што гэта за мода у вопратцы? А гаворка! Божа ты мой, якая ламачэчына! Ні слухаў-бы.

— Дзень добры, кажу.

— Здрасьцвіце!

— Што новага у вас? Як жывеце, як гуляеце?

— Нічаво асобеннага. Вочым ціпер скучна у нас. Раньше, як былі салдаты, заводзілі ігрышча, гуляньне, тэатр устроілі, а ціпер і забавіцца нечым. Калі ні на рабоці, то у хаці сядзі.

Затыкаю вушы і бягу хутчэй да дому, каб сапачыць з дарогі і ня чуць гэтага кламства.

* * *

Сумныя думкі апанавалі і ні даюць спакою. Хочыцца іці ня ведама куды. Хіба пайсьці у той дубняк, што по-над Нёмнам, ў той прыгожы куток, дзе калісь вясела гулялася.

Пышна разрасьліся дубы на прасторы. Моцна пусьцілі карэньня ў зямлю. Ня баяцца яны ні ветру, ні паводкі. Цэлыя векі стаяць яны тут. Пад імі густая, як кажух, трава. Рознакалеровыя красачкі блішчаць с травы. У гальлі дубоў сьпяваюць птушкі: у траве цьвіркаюць конікі. Нёман ахіляе гэты куточак і падае яму многа хараства і прыгожасьці. От дзе адпачыць, сеўшы пад тоўстым дубам!

Сонцэ ужо на захадзі. Сьцішыла. Толькі ціха шапочуць дубэ і плешчуцца хвалі у Нёмні. Хвалі бягуць адна за другою, бьюцца ў цёмны бераг, усхліпваюцца, шугаюць і, здаецца размоўляюць з магутнымі дубамі.

— Нівясёлае, братка, жыцьцё настала. Што гэта з людзьмі зрабілося? Бьюцца, рэжуцца самі с сабой ды яшчэ і да нас нешта маюць. Кідаюць бомбы, труцяць рыбу, брудзяць ваду. Людзі ўсё чужые, але і тутэйшые адмяніліся. Знаёмага слова ні пачуеш. Бывала, пачуеш родную песьню, дык сэрца млея ад радасьці. Пяе салавейка, пяюць і дзяўчаткі. А ціпер?.. Паслухайце. На беразі Нёмна, каля самых дубоў пехта выцягвае казліным голасам:

Гусар на саблю апіраўся.

Ну, ці хораша гэта? Выракаюцца роднае, спрадвечнае песьні. Пяюць чачаніну. Зараз самі сібе выракуцца!..

Заківаў галавой самы старэйшы дуб і кажа:

— Вот вы, хвалі, хоць і бегаеце усюды і чуеце многа, але паслухайце мяне, што я вам скажу. Я тут стаю, як на варці, ужо доўгі час. Шмат чаго чуў, шмат чаго й забыўся, але добра ведаю гэтых людцоў. Вы думаеце, калі гэтая дзяўчынка, выцягвае тонкім галаском «Гусара», дык яна назаўсюды адраклася свае песьні? Не, браточкі мае! Сягоння яна сьпевае так, бо з маскалём гуляе, а заўтра паляк стрэняцца,—засьпевае «пенкна то джэва ядловяц».

— Праўда, ці-ж мы ня чулі...

— Ну дык вот-жа бачыце. А сказаць папраўдзі, чаго ёй цягнуцца ціпер, калі дома работы процьма. Наўперад я гэтага ні бачыў. Асыпала-б бульбу, ці грады палола-б—ці мала работы у гаспадарцы...

— Гэта вучыцялька, шапнуў высокі, тонкі дуб.

— Усё роўна. Дык прачытала-б што-небудзь селянам...

У гэты мамэнт пачулася: «Въ полѣ вѣтеръ воетъ».

— Як ў полі вецяр вые, то яшчэ ні беда, але як ў галаве засьвішча, дык тагды будзе кепска. О-хо-хо!—уздыхнуў стары дуб і змоўк.

Пачало цямнець. Шэпты дубоў сьціхлі. Перастаў усхліпваць Нёман. Здаецца, замысьліўся ён нейкаю думкай. У траве закрычаў драч, моцна і траскуча. Здаецца, прысядаў ён, каб ямчэй выкрыкнуць. Закрычала перапёлка. Дзесь ў лозах засьвістаў салавейка...

**Міхась Мяцёлка.**



## ЗЬЕЗД ДЭЛЕГАТАУ

### ад беларускіх партыйных і грамадзянскіх арганізацый 8—10 ліпня у Мінску.

### Першы дзень зьезду.

Першы сход дэлегатаў быў назначаны на 12 гадз. ў залі «Дваранск. Сабран.», але фактычна ён пачаўся пазьней. Сход распачаў тав. старшыні Нацыянальнага Камітэту П. Алексюк. У кароткай, але гарачай прамові ён

## Галгофа.

Ні стогны маткі—радзіцялькі над магілай сына ядынаго раздаюцца.

Ні плач горкі дзеда сівога над куткам зруйнаваным нясецца навокала.

На вялікіх абшарах халоднай зямлі рухаецца грамада людзей.

Соняйка атуляна густым дымам пажарышч. Стрэлы гудуць па бакох, як птушкі сьмерці. Чырвоныя аграмадныя языкі абхапліваюць пякельным агнём гарады і сялібы.

У пакуці вялікай, людзі зліліся ў адну грамаду—адно сэрцэ, адна душа. Нібы заварожаныя пякельнікам поўзаюць яны ў холадзі, ў голадзі па зямлі...

Іх сьцяг—цёмная, караючая сьмерць.
Іх натхненьне—жудасная, страшная мука.
Іх эмблема—атрутнае, бязмежнае нішчасьце.
Забіваюць іх, і яны забіваюць.
Зьверы гэтага баяцца рабіць.

Пад небам туманным лунаюць плоймы жаху і пяюць песьні крыві і агня, песьні волава і залеза.

* * *

І пытаецца грамада ў сэрцы сваім:

— Дзе нашы прарокі? Дзе нашы збавіцялі? Дзе нашы вучыцялі шчасьлівага, згоднага жыцьця?

Шэпты...

Нібы шум прадбурны на моры, нібы гул ветру паўночнага паміж галін шчыр-бору высокага, нясуцца шэпты. Хвалямі плывуць у паветры, рвуцца з запечаных вуснаў людзкіх:

— Хрыстос ідзе... Хрыстос ідзе...

Ен паказаўся людзям...

Голас высьпеў ў грудзях балючых, вызваліўся, падымаецца ў выш, як гімн палягчэньня, як масянжовы зык шчырай малітвы ўсесьветнай...

Хрыстос ідзе...

Усе бягуць да Яго, усе...

Ідзе Збавіцяль людзей па зямлі у вопратцы белай...

У вачох добрых, прамяністых, гэтулькі жалю, гэтулькі болю...

Смутак ўсёй зямлі ў іх адбіваецца. Пакрыўджаннасьць і мука спавілі Яго душу...

І кажа грамада ў сэрцы сваім:

— Мы Яго распіналі пастаянна.

— Мы нясом Яму горкі трунак пакуты.

— Уся мэта жыцьця нашаго прыцьвіковываць Яго да крыжа.

— На ўсей зямлі мы Яму Галгофу робім...

* * *

Хрыстос ідзе...

Куды Ен павядзе грамаду вялікую? Якую новую навуку Ен ёй падаруе?

Цярновы вянец глыбока ў раны ўедаецца. Кроў капае, капае, хварбуючы Яго белыя вопраткі...

— Ці ведаеце вы, што вы робіце, о, дзеці мае?

— Чаму вас так агарнулі чары блудаў начных?

— Чаму пакрыла вас сваімі скрыдламі цемра магільная?

Ен хапаецца рукамі за грудзі і аглядаецца сумнымі вачыма ўвакруг.

Сьлёзы буйныя ліюцца без канца.

Стогны балючыя нясуцца з аднаго канца сьвету ў другі канец.

* * *

— Брат забівае брата. Выганяюць з родных куткоў старых і малых. Апаганіваюць матак разам з іх дочкамі. Рабуюць, грабюць потам запрацаваныя пажыткі. На цэлых багатых краёх засталіся адны каменьні і курганы магільныя.

— О, нішчасныя дзеці мае, вы бяз душы, бяз сэрца!

— Вы асьлеплі, аглухлі!..

* * *

Белыя вопраткі Яго робюцца зусім чырвонымі ад крыві.

Як шэпты плачучых ліраў, на лозах вавілонскіх льецца Яго голас:

— Сеяў Я шчырыя словы, як зерняты на голых каменьнях. На Мой кліч міласьці адазваўся глухі вокліч пустэльні. Стогнам балючым Маім ўторыць сьмех нячысьцікаў.

Голас Яго слабее. Вочы сумныя ў даль пазіраюць.

— Я вам нічога цяпер ні скажу. Бо думы, дзеці душы Маёй, радзіліся разам с соняйкам і будуць жыць датуль, пакуль неба на зямлю не ўпадзе. Маё сьветлае вучэньне лунае ў зорках паўночных, ў кветках пахучай жыватворнай зямлі, ў стромкіх хвалях марскіх і ў малітвах жаўранка ў паветры залацістым.

— Нібы тые каменьні дзікаго поля, ні хочэце вы Мяне зразумець. Нібы тыя бяздушныя, дуплістыя травы хіляецеся вы на ўсе бакі, ні маючы жаднай апоры.

Ен выстаўляе рукі ўпярод, на неба пазіраючы.

— Пакуль так будзе, Ойчэ Нябесны? Пакуль?

— Чаму-ж Ты іх стварыў гэткімі кволымі душой?

— Чаму-ж Ты іх кінуў ў морэ жыцьця, як пылінкі ў кіпучыя хвалі?

— Ні пакідай Ты іх так... ні забудзь... Яны-ж творы рук Тваіх...

— Я гатоў за іх вечна пакутаваць, да апошняго дня зямлі, бо яны няшчасныя, бяздольныя...

**З. Бядуля.**

## СІРАТА ПРАХОР.

Нівядома мінуласьць Прахора. Ні бацькі ні маткі бедак ніколі ні бачыў. Якое і калі паслужыла здарэньне папасьці у чужую хату, к чужым людзям, ён ня ведаў.

Казалі людзі, што маці гэтаго сіраціны чужая, захожая дзяўчына, заблудзіўшыся у нізнаных пуцінах жыцьця, разлічылася с сьветам, пакінуўшы памяць мінулаго каханьня на беразі віраватай рэчкі. І с таго часу, казалі, што год, у поўнач, з дна рэчкі чуцен быў то плач, а то сумная песьня дзяўчыны загубіўшай жыцьцё.

Маленькага, хвораго, без роду, без імені сіраціну прыгарнуў да сябе бедак—парабак, ахрысьціўшы, даў імя Прахор.

Як дзікая хвойка, ўзрастаючы на каменнай глы-

